Год V 1927. КРАСААВІК. II-ая кніжка.




ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

## Зьмест.



ЦАНА асобнага нумару з дастаўкай да хаты 25 гр., на 6 месяцаў 1 зл. 50 гр., да канца году 2 зл. 25 гр.

# Як жывуць сяляне ў Даніі?

Браты Беларусы! Хто з нас ня чуў аб малюсенькай, але багатай старонцы — Даніі? Хто з нас можа даць веры, што ёсьць край, дзе на горшай, як наша, зямельцы, атрымліваюць ураджай у 3—4 разы большы, чым у нас, што тамака адна карова дае столькі малака, сколькі ў нас даюць 3—4, што тамака не гадуюць курэй, калі яны не нясуць у год болей, як 150 яек.

І жывуць сяляне тамака так, як ніхто ў нас. Нават падлога ў іх хатах васкаваная, так што наш селянін-Беларус, бадай, і хадзіць па ей не патрапіў-бы. У доме знойдзеце амаль ня ў кожнага гаспадара фортэпіян, тэлефон, а ў вазоўні абавязкова прыгожую карэтку, а ў багацейшых сялян, якія маюць болей, як 25 дзесяцін зямлі, то і амэрыканскі аўтамабільчык.

Як дайшлі датчане да такога дабрабыту, што нам гаротным Беларусам нават цяжка і веры даць?

**Працай, навукай і арганізованасьцю.**

Яшчэ 60 гадоў таму былі яны гэтакімі самымі гаротнымі, як і мы цяпер. Пасьля няўдалай для іх вайны з Немцамі, жыхары Даніі ня мелі чым плаціць вялізарных падаткаў; збожжа іх, дзякуючы амэрыканскай конкурэнцыі, ішло за бясцэнак, а кепская зямля ледзь-ледзь магла пражывіць сям'ю. Але сяляне не паклалі рук і ўцямілі, што далей гаспадарыць так, як гаспадарылі да таго часу, немагчыма. Як у гарачцы, пачалі яны будаваць сваё жыцьцё па новаму. Пачалі адчыняць прыватныя школы, каапэратывы, хаўрусы і г. д.; пакінулі старасьвецкія парадкі ў гаспадарцы, узяліся за гадоўлю жывёлы, той жывёлы, якая дае ня страту гаспадарцы, але карысьць.

Хутка зьявіліся па ўсім краю саюзы хлебаробаў, якія ўтрымліваюць некалькі гаспадарчых школ для хлапцоў і некалькі для дзяўчат. Адзін толькі саюз дробных гаспадароў злучае балей 100.000 бяднейшых сялян і мае сваіх аграномаў, свае гаспадарскія школы, кніжкі, часопісі. Адных сельска-гаспадарчых часопісяў расходзіцца што тыдзень 360.000 нумароў.

Ня менш, як добрая школа, часопісь і кніжка—паслужыла прычынай гэтаму сельска-гаспадарчаму руху ў Даніі і добраму выхаваньню сельскай моладзі, яшчэ і практычная навука гаспадарства на розных хутарох. Яшчэ 100 гадоў таму, датчане завялі ў сябе добры звычай, што сына, ці дачку па скончэньні 14 гадоў аддаюць у наймы. І цяпер усё роўна: сын ці дачка памешчыка, ці дробнага гаспадара, якім скончыцца дзіцячы век, ідзе да чужых у навуку. Чужы прыймае іх, як родных дзяцей, бо ведае, што і яго дзе-

так прыймалі да чужога дому. Як хлопцу міне 20 гадоў, а дзяўчыне 18, бацькі аддаюць іх яшчэ ў гаспадарскую школу на 6-ці-месячны курс. Тутака яны ўжо добра пачынаюць разумець, чаму ім у вадным ці ў другім месцы казалі так абрабляць зямлю, ці варыць абед, а не інакш. Са школы дзеці вяртаюцца на бацькаўскую зямлю, дзе і заводзяць гаспадарку яшчэ лепшую, чым іх бацькі.

Яшчэ адзін добры звычай у Даніі: тамака ня дзеляць гаспадарку паміж дзяцьмі, а перадаюць аднаму сыну цалком. Другія-ж ідуць на вышэйшую навуку, ці на рамясло, таргоўлю і г. д. Дзеля гэтага сялянская гаспадарка не раздрабляецца і не бяднее.

**Праца, навука і арганізаванасьць зрабілі дацкіх сялян слаўнымі на ўвесь сьвет.**

# Як павялічыць ураджайнасьць зямлі.

Культурныя заходнія краіны павялічылі свае ўраджаі шляхам лепшага вырабу зямлі—увядзеньнем шматпольля а пладаземенным севазваротам, травасевам і мінэральным угнаеньнем. У нас-жа на Беларусі*) калі і ўжываюць месцамі мінэральнае (штучнае) ўгнаеньне, то толькі супэрфасфат, ці як яго яшчэ сяляне завуць „крамны попел“. А між тым, уводзячы супэрфасфат, які вельмі патрэбен нашым землям, бываюць выпадкі, што ён ня робіць ніякага ўплыву на ўраджай. Сяляне сумляваюцца ў карысьці гэтай „выдумкі“ і занехваюць ужываньньне супэрфасфату.

Чым-жа тлумачыцца, што ў нас здараюцца выпадкі, што „попел“ не аказвае дзеяньня на ўраджай? Каб даць адказ на гэтае пытаньне, мы павінны пазнаёміцца перш з нашым грунтам, з тым, чаго вымагаюць ад яго расьліны і з самай натурай мінэральных ўгнаеньняў.

Навучнымі дасьледамі дазнана, што для жыцьця расьлін патрэбны: фосфар, азот, паташ, вапна, ня лічучы серкі, жалеза, вугляроду, вады, якіх знаходзіцца ў дастатку ў зямлі і паветры.

Але азот, фосфар, паташ і вапна не заўсёды ёсьць у глебе ў патрэбнай для расьлін колькасьці, а пры недастачы іх расьліны галадуюць, перастаюць расьці, або растуць слаба, хвараюць і нарэшце гінуць.

Вось тутака гаспадар, дасьледжваючы свой грунт, мусіць даведацца, катарага з гэтых чатырох вышэй паданых

*) Гутарка тут ідзе толькі аб Заходняй Беларусі.

складнікоў нехапае ў зямлі і ўгнаеньне павясьці ў тым кірунку, каб гэты недахват папоўніць.

Вядома, што найвялікшы ўраджай атрымліваецца тады, калі ў зямлі знаходзяцца ўсе патрэбныя расьлінам складнікі ўдастатку. Калі-ж аднаго якога-небудзь не хапае, напрыклад азоту, дык сколькі-бы мы не давалі фосфару (у форме супэрфасфату, ці тамасоўкі), ураджай будзе залежыць толькі ад прысутнасьці азоту, які знаходзіцца ў нашым прыкладзе ў мінімуме (найменшай колькасьці). З гэтага відаць, чаму, часам, супэрфасфат ня робіць уплыву па ўраджай.

З гэтага-ж відаць, як важна пазнаць гаспадару сваю зямельку, бо часта аднастаронным угнаеньнем, гэта знача, унясеньнем таго якраз, чаго ей не хапае, можна зразу павялічыць ураджай у некалькі разоў, бо гэтым мы даём магчымасьць расьліне выкарыстаць у поўнасьці і тыя складнікі, якія інакш засталіся-б у зямлі невыкарыстанымі.

У сучасны мамэнт самым пэўным спосабам пазнаць свой грунт—будзе палявы дасьлед, які пакажа гаспадару, чаго ў гэтай зямлі не хапае.

Для гэтага выбіраюць на полі 2 аднолькавыя невялічкія кавалкі, адзін з іх засяваюць якім-небудзь збожжам з штучным угнаеньнем, другі астаецца без угнаеньня Гэты дасьлед адкажа гаспадару на пастаўленае пытаньне. Раўняючы кошт угнаеньня і прыбытак ураджаю, мы будзем мець магчымасьць вылічыць, на сколькі нам выгадна сеяць супэрфасфат, чалійскую сялетру, ці іншае ўгнаеньне.

Хочучы высьвятліць прадукцыйную моц глебы ўва ўсіх кірунках, не задавальняюцца гэтым простым дасьледам, а робяць болей падробязны, які лепей можа паказаць, што знаходзіцца ў зямлі ў найменьшай колькасьці.

Для гэтага на роўным і тым самым полі выбіраюць пяць кавалкаў побач сябе, аднальковых па выра̂бу і вялічыне:

1-шы кавалак астаецца без угнаеньня;

2-гі — угнайваюць поўнасьцю (азотам, фосфарам і паташам);

3-ці — поўнае ўгнаеньне без паташу;

4-ты — поўнае ўгнаеньне бяз фосфару;

5-ты „ „ без азоту.

Калі пасьля параўняць ураджаі першага і другога кавалка, то гэта будзе дзеяньне поўнага ўгнаеньня, 1 і 3 — дзяяньне фосфара і азоту, 1 і 4 — паташу і азоту, 1 і 5 — паташу і фосфару, 2-гі і 3-ці кавалак пакажа, на сколькі поўнае ўгнаеньне ўплывае на ўраджай мацней, чым тое-ж

без паташу. З 2-га і 4-га кавалка атрымаем дадзеныя дзяяньня фосфару, 2 і 5 — азоту.

З усяго гэтага відаць, што палявыя дасьледы — гэта самы пэўны шлях для выўчэньня патрэбнасьцяў сваей зямлі і пры помачы іх гаспадар лэгка можа падняць ураджайнасьць сваіх палёў і эканамічную моц сваей гаспадаркі.

*У. Павалковіч.*

# Лубін — як зялёнае ўгнаеньне.

Першы варунак падняцьця кожнай сельскай гаспадркі— гэта павялічэньне ўраджайнасьці поля, а ўраджаі павялічацца толькі тады, калі мы пачнём ляпей гнаіць ральлю.

Дзякуючы вільготнасьці нашага клімату, ў нашых землях не набіраецца запасу перагною. Шпаркае выпаласкваньне дажджамі запасаў спажыўных складнікоў з зямлі, трэба папаўняць іх са стараны, што мы і выпаўняем, угнаеваючы нівы. Але дзеля таго, што нашы гаспадаркі мала маюць гною, дык з кожным годам зямля бяднее. Гэты недахват хлеўнага гною можна дапоўніць зяленым угнаеньнем, да ліку якіх належыць лубін.

Лубін — расьліна бабовая; удаецца ляпей усяго на землях лёгкіх, пяскох, дзе другая расьліна ня можа расьці. Дае шмат зялёнай над'земнай масы, якая і ідзе на ўгнаеньне. Пускаючы карані глыбака ў зямлю, лубін карыстаецца ёмімымі часткамі яе з тых слаёў, з якіх другія расьліны дастаць сабе спажыву нямогуць. Вырастае лубін пры спрыяючых умовах да 2-х аршын вышынёй.

Завораная маса лубіну, перагнівае і абагачвае зямлю азотам — самым каштоўным спажыўным складнікам глебы. Перагной ад лубіну паляпшае будову грунту.

Лубін заворваецца ў нас галоўным чынам пад азіміміну, а часамі і пад ярыну — авёс і бульбу.

На зялёнае ўгнаеньне лубін высяваецца ў траўні. Спачатку лубін расьце марудна і часамі яго зусім заглушае дзікая трава. Але калі разрастуцца карані яго, тады лубін хутка расьце і ў свой чарод глушыць пад сабой дзікую траву.

Заворваць лубін трэба тады, калі пачнуцца толькі завязвацца струкі, але не пазьней, як за 2 тыдні перад засевам азіміны.

На насеньне лубін сеюць як магчыма раней, бо ў праціўным разе ён не высьпявае. На палуднёвых схілах дзе сонца прыгравае мацней, лубін пасьпявае крыху хутчэй. На дзесяціну сеяцца лубіну да 18 пудоў. На насеньне можна сеяць радзей.

*Л.*

# Кармавая морква.

Усе добра ведаюць, што ёсьць два гатункі морквы: агародняя—для ўжытку людзей і кармавая—для жывёлы. Але ня ўсім вядома вялікая карысьць ад кармавой морквы. Перш, яна на спажыўнасьці вышэй стаіць за кармавы бурак, бо мае менш вады і больш цукру, а праз гэта можна 3 часткі морквы прыраўняць да 4-х частак буракоў. Морква ідзе ў корм коням, сьвіньням, каровам, а асабліва маладняку. Каровы павялічваюць колькасьць малака, калі дастаюць штодзень 25 ф. морквы; масла выходзіць прыхожае, жоўтага колеру з вельмі прыемным пахам. Жывёла з ахвотай есьць моркву. Жарабяты, цяляты, дастаючы па 5 фун. морквы ў дзень, хутка растуць.

Расьце морква добра на ўсякай зямлі, апроч сухіх бязплодных пяскоў. Найляпей удаецца на другі год пасьля азімага. Высяваецца на дзесяціну 12—15 ф.; прыкрываць зямлёй яе трэба плытка.

Морква вельмі доўга ўсходзіць, а дзеля гэтага вясной перад засевам насеньне мочыцца ў працягу 24 гадзін і высеваецца з малай колькасьцю ячменю, ці грэчкі, якія хутка ўсходзяць і вызначаюць радкі. Адлегласьць між радкамі 8—9 вяршкоў. Далей, як морква ўзыйдзе, прарэджаюць яе, полюць і рыхляць між радкамі зямлю. Выкопваецца морква досыць лёгка. Часамі, калі перападае дождж і ральля была добра выраблена—проста выцягваецца з зямлі за каліўе. Абрэзаная, абчышчаная ад зямлі і высушаная морква складаецца ў вараўнях, або ў ямах і добра прыкрываецца саломай. (У нас, на Беларусі, трэба яшчэ пакрыць і зямлёй *Увага Рэд.*). Морква хутка псуецца, а таму найляпей яе карміць з восені.

Адна дзесяціна пры добрым ураджаі морквы дае да 3000 пуд., а ў сярэднім можна лічыць 1600—1800 пуд. (на Беларусі трэба лічыць ураджай морквы трохі меншым. *Увага Рэд.*). Розьніца ў вырабе ральлі пад моркву і, напрыклад, пад авёс так невялікая, што можна і ня браць яе пад увагу, а лічыць толькі ўраджай таго і другога збожжа з 1 дзес. і пабачым, якую карысьць дае морква: аўса ў сярэднім можам мець 50—60 пуд. Даючы па 10 фун. штодзень—хопіць на пракармленьне 4-х коняў у працягу 60 дзён. Морквы ў сярэднім маем з 1 дзесяціны 1800 пуд., даючы па 1 пуд.×4 коняў=4 пуды на дзень, хопіць на 450 дзён.

Прашу палічыць яшчэ з аднэй дзесяціны мак, які я сею з морквою разам. У тым годзе маку я меў 40 пудоў, які прадаў па 22 зл. за пуд на суму 880 зл. Здаецца, што ня трэба доўга рахаваць, каб прыйсьці да перакананьня, што моркву аплаціцца сеяць, хоць і плошча пад авёс

зьменшылася. А нарэшце, хай кожны гаспадар у гэтым годзе папробуе засеяць хоць невялічкі кавалак зямлі морквою з макам.

Морква лічыцца адпаведным кормам для ўсіх дамашніх жывёл, нават і для дарагіх заводзкіх коняў, якіх ахоўвае ад залзаў. Апроч таго морква ёсьць добры сяродак для звальненьня і проці розных рабакаў.

Можна моркву даваць рабочым коням 25—75 ф.; валом і каровам да 100 ф., цялятам да 25 ф. у дзень, лічучы гэтыя нормы на 1250 фун. жывой вагі. Морква карысна таксама для авец і сьвіней, але сьвіньням моркву трэба даваць параную або вараную.

Вось-жа, сяляне, спрабуйце пасеяць моркву і ня будзеце каяцца!

*Л. Марковіч* *)

Варшава, 9.III. 1927 г.

---

## Гадоўля цялят.

Як чалавек, так і жывёла ў пачатку свайго жыцьця, каб расьці і разьвівацца, патрабуе лепшых варункаў, чым старая жывёла ці дарослы чалавек. Правільны спосаб гадоўлі цяляці добра адбіваецца на прадукцыйнасьці і ў працягу ўсяго далейшага жыцьця жывёлы.

Пры правільнай гадоўлі, цераз дзён 7—10 пасьля ацёлу, цяля ад каровы адлучаюць. Раней адлучаць цяляці нельга дзеля таго, што яно павінна спажыць усё малодзіва, якое сама натура для яго прыгатавала. Ужываць малодзіва для іншых мэтаў, як гэта робіцца ў нашай вёсцы—неразумна. Дзён цераз 7—10 цяля павінна быць разлучана з каровай і тагды трымаць яго трэба ў цёплым і сьветлым хляве, дзе чыстае паветра і няма цягу ветру. Малако даюць цяляці паводле жывой вагі: для бычка—шостую частку вагі; калі бычок важыць, скажам, 60 ф., дык малака 10 ф. у дзень, а цёлцы пятую частку яе вагі; разам з узростам вагі павялічваюць і корм.

Малако трэба даваць абавязкава ў чыстай пасудзіне і такой цяплыні, якую мае малако пры даеньні каровы. Карміць трэба ня меней, як тры разы, а спачатку і 4 разы ў дзень.

З 3-га тыдня цаляці пачынаюць даваць каля 2—3 ф. добрага лугавога сена, не перастаючы даваць малако.

---

*) Л. Марковіч (сэнатар)—вядомы ўкраінскі гаспадар і прыяцель Беларусаў быў ласкаў прыслаць гэту стацьцю спэцыяльна для „Сахі“.

З 4-га тыдня пачынаюць прымешваць да малака вады (абавязкава пераваранай і астуджанай да 15°), аўсянай мукі 2—3 ф. і льнянога адвару.

Пры ўзросьце 3-х мес. дняўная дача цяляці будзе: 3 ф. лугавога сена, 7—8 ф. сыраваткі, каля 2—3 ф. аўса і 1 ф. льнянога адвару.

Пры ўзросьце 4—6 мес. даецца 5 фун. лугавога сена, 3 ф. аўса, 10—12 ф. бульбы ці буракоў і 1—2 ф. макухі.

Пры ўзросьце 7—12 мес. даецца 10 ф. лугавога сена, 5 ф. яравой саломы, 10—12 ф. бульбы ці буракоў, 3 фун. аўса і столькі-ж макухі.

Паказаны корм разьмяркоўваецца на 3 разы ў дзень.

*Б.*

---

# Конскі зуб.

Конскім зубам у наз завуць амэрыканскую кукурузу. Яна пры нашым клімаце ня можа высьпець і сеецца толькі на корм для жывёлы. Празвалі гэтую расьліну „конскім зубам“ дзеля таго, што зярнё яе папраўдзе вельмі падобнае да конскага зуба.

Апошнія гады я сеяў конскі зуб для кароў і практыка паказала, што карысьць з гэтае расьліны немалая і што конскі зуб у нас на Беларусі на корм добра ўдаецца.

Праз усю восень можна мець многа і добрага корму для кароў, ад чаго каровы павялічваюць удой, ня гледзячы на тое, што ўвосень яны ў нас запускаюцца.

Конскі зуб вельмі сакавіты; калі раскусіць каліво яго, то сок такі салодкі, як цукер. Конскі зуб пры спрыяючых варунках вырастае аршынаў 4—5 вышынёй.

Кавалак бульбянішча, ці ячнішча, бліжэй каля дому, угнойваецца і аборываецца на зіму. Вясной барануецца і мяшаецца. У пачатку траўня ізноў барануецца і другі раз мяшаецца.

Забаранаваўшы мешань, у першай палове траўня ганяюцца градкі і садзіцца конскі зуб. Градкі трэба ганяць вузейшыя, чым на бульбу: на месцы дзьвёх градак на бульбу—робяцца тры градкі на конскі зуб. Садзяць не ў градкі, а ў баразёнкі і таксама гусьцей, як бульбу: дзе трэба было-б пасадзіць дзьве бульбы, то на тым месцы садзіцца тры калівы конскага зубу.

Перад саджэньнем трэба лічыцца з пагодай. Калі сушы няма і зямля вільготная, то насеньне зубу мочыцца, каб пусьціла расты, а тагды садзіцца. Дагляд за культурай конскага зубу гэтакі самы, як і за бульбай.

Увосень, як скончыцца зялёная паша на полі, зуб жнецца пакрысе і даецца каровам. Як пачнуцца прымарозкі, жнецца ўвесь зуб і расстаўляецца пад стрэхамі каля сьцен. Зімой ідзе на рэзку. *А. В.*

---

# Каўказкі жывакосьнік.

## (Symphyxum caucasicum).

Жывакосьнік каўказкі, як паказвае сам яго назоў, расьце ў дзікім стане на Каўказе па нізкіх вільготных мясцох. У нас ён можа служыць, як кармавая трава.

Ужо ў мінулым стагодзьдзю за граніцай рабілі пробы над гэтай расьлінай, а ў апошнія часы жывакосьнікам пачалі цікавіцца агароднікі і гаспадары і ў нас на Беларусі. Усе гэтыя пробы паказалі, што жывакосьнік—расьліна вытрывалая і пераносіць нашу зіму і клімат наагул. Вымагае грунтаў вільготных, на каторых буйна расьце, але ўдаецца і на ўсялякіх землях, калі яны ня будуць вельмі сухімі, або пяшчанымі. Пры акуратным даглядзе жывакосьнік можа расьці на адным месцы гадоў каля 15.

У садку, дзе ў цяні ад дрэў ня можа расьці ня толькі агародніна, але нават і трава,—жывакосьнік добра ўдаецца; таксама для культуры яго падходзіць і кавалачак мокрага лугу.

Каб завясьці ў сябе гэтую новую, але вельмі цікавую і карысную расьліну, выбіраюць кавалак грунту ў садзе, ці на сенажаці, глыбакавата перакопваюць рыдлёўкай на адзін штых зямлю і, як дзярніна добра перагніе, акуратна зямлю выраўніваюць. Пасьля значнікам, ці шнуром вызначаюць тыя пункты, дзе прыдзецца садзіць жывакосьнік. Радок ад радка і саджанка ад саджанкі павінны быць на дзевяць вяршкоў. Месцы для кожнай саджанкі жывакосьніка сьпярша значыцца калочкам, або адразу выкопваюцца ямкі, у якія потым і садзяцца расьлінкі так, каб можна было на адзін вяршок таўшчыні прыкрыць іх пу-

хляной зямлёй. Гэтак рассадзіўшы саджанкі, зямля прытоптваецца і потым пільнуецца, каб на кавалку з жывакосьнікам зямля ня была заскарупеўшы і, калі пакажацца трава—трэба яе зьністожыць. Ускорасьці жывакосьнік разрастаецца і далей ужо сам глушыць траву.

Ураджай лісьцяў здымаецца 3—4 разы ў год, пакідаючы іх на расьліне толькі маладзенькія і на макушцы.

Лісьця гэтыя даюцца на корм сьвіньням, качкам, кролікам і іншай хатняй жывіле або цэлымі, або сечанымі. Ня трэба толькі сячы дробна, бо тагды прападае шмат карыснага соку.

Па кармавому складу жывакосьнік аднолькавы з кармавым бураком. На сто часьцін у жывакосьніку ёсьць: 86,6 вады, 3,1—3,5 бялку, 0,4 тлустасьці, 4,2 безазотавых частак і 2,0 валакна.

Апрача корму для жывёлы, жывакосьнік ужываецца як і лякарская расьліна (разнавіднасьць S. otticinàle).

У кветках жывакосьніка ёсьць шмат нэктару, дзеля чаго гэта расьліна заслугоўвае ўвагі і для пчалярства, хоць для пчолаў болей падходзіць крымскі (S. tauricus), які мае кветкі карацейшыя, а дзеля гэтага і балей даступныя для пчолаў. З кветак жывакосьніка каўказкага і лякарскага пчала бярэ мядовы сок цераз дзіркі, якія яна перацінае жалам.

Як бачым, жывакосьнік вельмі цікавая і карысная расьліна. Пажадана было-б, каб з гэтай расьлінай пачалі рабіць у нас на Беларусі болей дасьледаў. *М.*

---

## Як вырасьціць добрую капусту.

Каб завязаўся качан, капуста патрабуе шмат вільгаці. Дзеля гэтага капуста ляпей удаецца на грунтах нізкіх, вільготных, пры гэтым добра ўгноеных і нявыараных. На сухіх пяшчаных грунтах добрага ўраджаю капусты спадзявацца нельга.

Рассада ў рассадніку не павінна быць густой, бо пры гэтым расьлінкі ніцеюць. Паліваць рассаду часта ня трэба, каб часам яна не падапрэла і рассаднік не зрабіўся чулым да сьцюжы.

За некалькі дзён да перасаджваньня рассады на гарод, рассаднік нанач не пакрываецца. Робіцца гэта дзеля

таго, каб расьлінкі прывучыць да ўмоваў росту іх на адкрытым грунце. Калі часам рассаду захопіць раніцай мароз, дык трэба паліць яе да ўсходу сонца сьцюдзёнай вадой, ад чаго рассада лягчэй пераносіць прымарозак.

Перад высаджваньнем на гарод, рассаду паліваюць, каб зямля ляпей прыліпала да карэньняў.

Цяпер гаспадар павінен падумаць, ці пад капусту рабіць лехі, ці садзіць яе на роўным месцы. Калі зямля вельмі вільготная, стоку для вады няма, то робяцца лехі, у праціўным разе заўсёды ляпей садзіць на роўным месцы. Перад пасадкай расьлінак на гарод, кончык галоўнага кораня сашчыкваюць пальцамі і макаюць у сумязь вады з кароўім калам і глінай. Садзіць рассаду трэба ў вільготную пагоду і вечарам. Паліўка робіцца штодзень раніцай і вечарам, пакуль не прыжывуць расьлінкі. Далейшы дагляд за капустай будзе—рыхленьне зямлі, зьністажэньне травы і абсыпаньне матычкамі расьлінак. У гэты час вельмі добры ўплыў на ўраджай капусты робіць паліўка гнойнай жыжай.

З позных гатункаў капусты лічыцца найлепшымі ў нас Браўншвейгская і Сабураўка; з раньніх—„Бронка“.

*К.*

---

# Ці варта абрываць лісьця цыбулі?

Кожная расьліна для свайго росту патрабуе спажывы, як з зямлі (мінэральных частак), так і з паветра (вугляроду і кіслароду).

Калі мы спалім расьліну, то попел—гэта будзе мінэральная частка, а рэшта, што пайшла з дымам—арганічная.

Скуль-жа бярэцца гэта арганічная частка і хто яе прызапасвае ў расьлінах?

Бярэцца яна з паветра, а гэту функцыю выпаўняюць, галоўным чынам, зялёныя лісьця.

Цяпер будзе зразумелым пытаньне: „ці варта абрываць лісьця цыбулі?“

Каб паказаць сваім гаспадаром шкоднасьць абрываньня лісьця, я ў 1926 г. зрабіў у сваім гародзе роўныя і аднолькавыя лешкі па 5 кв. саж. кожная, на якіх пасадзіў па 12 фун. аднолькавай цыбулі. З першае лешкі сашчыкваў лісьцё, пакідаючы на расьлінцы толькі 1/3 частку; на другой—прыблізна палову; а трэцюю—не чапаў саўсім.

Ураджай увосень быў наступны: першая ляха дала ўраджай цыбулі сам—два, другая сам — тры, а трэцяя сам —шост.

в. Гароднікі, *Пляхтур.*

---

# Хваробы і лячэньне пладовых дрэў.

Вялікае зьнішчэньне садоў на Беларусі за апошнія гады тлумачыцца з аднаго боку—адсутнасьцю патрэбнага дагляду за садам, а з другога — слабымі ведамі садаводаў, а асабліва сялян аб мерах барацьбы з тымі ці іншымі хваробамі і шкоднікамі саду. У гэтым нарысе я хачу пералічыць галоўныя прычыны хвароб і тыя спосабы, якімі трэба лячыць дрэва ад той ці іншай хваробы.

Найбольш шкодныя хваробы пладовых дрэў выклікаюцца living рознымі грыбкамі — чужаедамі. Яны нішчаць усе часткі дрэва (карэньні, лісьця, плады).

Возьмем перш губку ці трутавіка. Для барацьбы з гэтым грыбам патрэбен старанны дагляд за карой і ранамі дрэў, каб папярэдзіць пападаньне сюды спор грыбкоў і ня даць ім прарасьці ў грыбню, бо грыбня зьнішчае драўніну. Дзеля гэтага трэба ўсе раны дрэва зараз-жа замазаць садовай замазкай ці ўмела пакласьці на раны латы здаровай кары (яе можна зьнімаць хаця-бы з рабіны). Калі-ж дрэва ўсё заражана трутавіком, дык трэба, як толькі зьявяцца плады гэтага грыба, зрэзаць іх, выскрабці заражоныя месцы, а рану замазаць садовай замазкай ці вапнай з глінай; пры адсутнасьці замазкі ці вапны—вымазаць дзёгцем.

Другі грыб выклікае хваробу „рак дрэва“ (Nectria detissima Tul). Гэты грыб, як і губка, вырастае на месцы, дзе кара была паранена. Грыб шкодзіць кары, яна бурэе, засыхае і адвальваецца. Рана з кожным годам павялічваецца і, калі распаўзецца на галіны і камель, тады верхняя частка дрэва засыхае. Каб лячыць ад гэтай хваробы, трэба выразаць да здаровай кары і драўніны ўсе часткі дрэва, якія паражаны ракам і закітаваць раны звычайнай смалой.

Часамі сустрачаюцца на пладовых дрэвах грыбы *апенькі* (Adaricus melleus). Гэты, усім вядомы грыб, вельмі шкодны дзеля нашых садоў. Дрэва, паражанае апенькамі, вылячыць нельга. Абавязак садавода ў гэтым выпадку будзе ў тым, каб захаваць іншыя дрэвы ад апенькаў. Дзеля гэтага пільна зьбіраюць шапкі апенькаў і даволі далёка ад камля акопваюць хворае дрэва ровам.

Але самымі шкоднымі ворагамі саду зьяўляюцца маленькія грыбы, якія выклікаюць *каросту яблык і груш.* Ча-

сам гэты грыбок нішчыць лісьця дрэў і маладыя галінкі, і дрэва пасьля такой хваробы можа адхапіцца толькі праз некалькі гадоў, а ўраджай пладоў пры гэтым грыбку ня мае ўжо ніякай вартасьці. Лісьця ад грыбка жаўцеюць рана і асыпаюцца. На пладох (яшчэ малых) зьяўляюцца чорненькія маленькія плямы.

Самым лепшым сродкам для барацьбы з гэтымі хваробамі саду будзе *бардоская жыжка* для апрысканьня дрэў. Складаецца гэта жыжка з $1^1/_2$ ф. сіняга каменя, 1 фун. гашанай вапны на $4^1/_2$ вядра вады.

У нашых садох дрэвы часта нішчацца ад дрэннай і густой пасадкі. Дрэва ад дрэва павінна быць ня меней 15—16 арш. Гэтага трэба трымацца пры пасадцы саду.

Пры завядзеньню новага саду трэба памятаць, што грунтовыя воды, раз яны падыходзяць блізка да паверхні зямлі, спрыяюць розным хваробам дрэў. Дзеля гэтага, пры пасадцы саду трэба выбіраць такое месца, дзе ўзровень грунтовых вод будзе знаходзіцца ня бліжэй 2 арш. ад паверхні.

Далей скажам аб марозабіцьцю. Вынікае яно на штамбе дрэва звычайна ў другой палове зімы, калі бываюць сонечныя дні. У гэты час пад сонцам бывае цёпла, а ўцяні—мароз. Пры гэтакіх умовах кара на дрэвах з паўднёвага боку награецца, а як падыходзе ноч, хутка замярзае. Вынікам гэтага бывае тое, што кара адстае ад дрэва і трэскаецца. Пад кару пападаюць грыбы-чужаеды.

Каб захаваць дрэва ад хваробы, неабходна камлі дрэў і тоўстыя галіны абмазваць вапнай, абвязваць яловымі галінамі або саломай. Вапна дапамагае тым, што пабеленае дрэва менш награваецца. Вапна-ж нішчыць на дрэвах лішаі і мох. *І. К.*

---

# Раеньне пчол.

Раеньне пчол на здаровай пасецы пачынаецца праз паўтара—два месяцы пасьля выстаўкі і вясеньняга аблёту пчол. Прыметай, па якой пазнаецца раеньне ў калодных вульлёх, будзе высыпка пчол па вечарох з калоды на даўжнікі і сьцены вульля, а ў рамовых—на прылётную дош-

ку. Таксама прыметай раеньня зьяўляецца і няруплівы лёт пчол на работу.

Перад раеньнем сям'я закладвае матачныя соты, а матка кладзе ў іх яечкі. *) Праз некалькі дзён пасьля закладаньня матачнікаў, сям'я адпускае першы рой „пяршак", з якім выходзіць старая матка. Дзён праз 7—8 пасьля гэтага, калі сям'я моцная, можа адыйсьці і другі рой. Другія раі заўсёды адыходзяць з маладою маткай, якая перад адыходам з вульля „пяе". Сьпеваньне гэта бывае ад таго, што матка, якая вышла з кукончыка першай, пачынае бегаць па сотах і шукаць іншых матак, якія яшчэ ня вышлі, каб забіць іх. Пчолы-ж не даюць ёй зрабіць гэта і шчыльнымі клубочкамі аблепліваюць другую матку і бароняць яе. Разгневаная першая матка пачынае сьпяваць працяжнымі гукамі „цю... цю... цю...", а матка, якую бароняць пчолы, з кукона адказвае кароткімі гукамі „ква... ква... ква...". Гэтае сьпяваньне матак лёгка пачуць, прылажыўшы вуха да лятка. Калі матка сьпявае ўвечары, то выхад другога рою трэба чакаць назаўтра рана. Іншы раз бывае, што дождж затрымоўвае адход першага рою, тады вышаўшая першай маладая матка забівае старую і першы рой у гэтым разе адыходзіць з маладой маткай. Пасьля адыходу такога першага рою, адыходзіць другі, за ім трэці і г. д. Але гэта здараецца ў гады з дрэннымі ўзяткамі мёду. У такую пару пчолы зройваюцца, і раеньне гэтае завецца „раёваю гарачкай".

Ніколі ня трэба даваць, каб з вульля выходзіла больш аднаго рою. У рамовым вульлі зрабіць гэта вельмі лёгка. Пасьля адыходу першага рою трэба агледзець вулей і павырэзваць у ім усе матачнікі апрача аднаго; тады раеньне спыніцца. Але апрача вырэзваньня матачнікаў, раеньне можна спыніць і сваячасным пашырэньнем гнязда, дабаўляючы ў яго новыя рамкі.

Лепшымі роямі лічацца п е р ш а к і з маткамі мінулага году. Добры рой павінен важыць ня менш 5 фунтаў.

Лепшы час дзеля пасадкі рою—вечар (пакуль сонца

---

*) Ад часу кладкі яечка да выхаду маткі праходзіць 14 дзен. На шосты-жа дзень пасьля таго, як заложана ў матачны сот яечка, матачны чарвячок пчоламі запячатваецца (матачнік).

пад заходам). Садзяць рой заўсёды ў вулей, які навошчан штучнаю вашчынай. Дзеля таго, каб пчолы не зьляцелі, іх трэба садзіць на рамку з маладою маткай, якую для гэтага бяруць з іншага вульля. У такім выпадку зачыняць матку ў матачнік ня трэба. Вельмі добра новую сям'ю падкарміць сытою, якую ставяць у $1^{1}/_{2}$ фунтовым шкляным слоіку. Слоік абвязваюць чыстай палатнянай анучай, пераварачваюць уверх дном, і ставяць паверх рамак.

Пасаджаны рой дружна бярэцца за працу, хутка адбудоўвае гняздо і яшчэ ў той-жа год можа даць гаспадару да пуда мёду.

Каб новы рой хутка ўзмацаваўся, добра падзяліць яго рамкай—другой сьпелай чарвы з іншага вульля. Гэтакі рой працуе нягорш старога, які не раіўся. *І. Ф.*

## Парады агранома.

### Пытаньне.

Пробаваў я сеяць на куплянай зямлі сэрадэлю. Што год мяняў кавалкі зямлі, але вынікі былі кепскія, так што я перастаў сеяць яе. Парадзьце, як сеяць сэрадэлю, каб атрымаць добры ўраджай. Зямлю я адпускаў для сэрадэлі няспустошаную і лёгкую.

Падпішчык Я. Пляхтур.

### Адказ.

Сэрадэля ўдаецца на ўсякай лёгкай зямлі, абы толькі была яна нямокрая. Ляпей сеяць яе па азіміне, як толькі сыйдзе сьнег (каля $3^{1}/_{2}$ пуд. на дзесяціну). Па азіміне яна знойдзе досыць вільгаці для ўсхожасьці насеньня і па здойму азімага хутка ідзе ў рост. Сеюць яе і з ярыной, але ў гэтым з прычыны познага здойму ярыны сэрадэля не саўсім пасьпявае ўзрасьці.

Сэрадэля—бабовая расьліна, а ўсе бабовыя маюць на карэньнях кузочкі, у якіх жывуць бактэрыі. Пры помачы гэтых бактэрый расьліна бярэ з паветра азот—самую дарагую спажыўную часьціну глебы, якой на нашых землях амаль не заўсёды бракуе. Раз зямля ня будзе заселена гэтымі бактэрыямі, сэрадэля можа на першы раз ня ўдацца.

Дзеля гэтага трэба навязьці зямлі з таго кавалка, дзе ўжо перш сеялася сэрадэля, ці пасеяць яе другі раз на старым месцы.

**Пытаньне.**

Што рабіць, калі не ўдаецца боб, хоць зямелька пад яго адводзіцца па якасьці сваейня дрэнная?

Падпішчык Краўчонак.

**Адказ.**

Боб ляпей удаецца на крашаках (суглінках), але можа расьці як на цяжэйшых, таксама і лёгкіх. Папрабуйце пасеяць другі раз на старым месцы. (Гл. адказ папярэдні).

**Пытаньне.**

Я чуў, што некатарыя лепшыя гаспадары ў нас бульбу садзяць ня рэзанай, а цэлай і дзэля гэтага атрымліваюць лепшы ўраджай. Ці праўда гэта?

**Адказ.**

Горацкая с.-г. дасьледчая станцыя вывучыла гэтае тае пытаньне.

Дасьлед рабіўся ў працягу некалькі гадоў і ў сярэднім быў гэтакі рэзультат:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Цэлыя бульбіны далі ўраджай . . | 1904 | пуд. | з дзес. |
| Верхнія палавінкі пры папярэчным рэзаньні . . . . . . . . . . . . . | 1732 | „ | „ |
| Ніжнія палавінкі . . . . . . . | 1280 | „ | „ |
| Палавінкі рэзаныя ўдоўж . . . . | 1239 | „ | „ |

Як бачым, найвялікшы ўраджай даюць цэлыя бульбіны, а найменшы—палавінкі, рэзаныя ўдоўж і ніжнія.

Пры пасеве верхнімі палавінкамі ў гаспадарцы трэба скарыстаць ніжнія, бо пры вялікім запасе можа быць загніваньне іх у вясновы час.

У тым выпадку, калі бульбы на пасадку вясной не хапае, можна раіць садзіць верхнія і ніжнія палавінкі разам, бо ад такой мяшанай пасадкі мы будзем мець усё-ж такі больш высокі ўраджай, чым ад пасадкі толькі палавінкамі, якія рэзаны ўдоўж.

# Паштовая скрынка.

**Падпішчыку Свайму:**

На Вашае пытаньне: „як арганізаваць маслабойны завод супалкаю, рэдакцыя дае адказ пісьмом. У сваім часе мы асьветлім гэтае пытаньне на старонках сваей часопісі.

**Падпішчыку Грэю:** Адказваючы на Ваша пісьмо, паведамляем, што ў траўні м-цы ладзіцца ў Пазнані сельскагаспадарчая выстаўка, на якую рэдакцыя „Сахі“ зьбіраецца арганізаваць экскурсію сялян-Беларусаў. Робіцца заходы, каб гэтая экскурсія абышлася найтаней для сялян. Жадаючыя залічыцца да экскурсіі павінны паведаміць рэдакцыю лістом.

**Падпішчыку Пляхтуру:**

Дасьлед Ваш з цыбуляй атрымалі. Зьмяшчаем у гэтым нумары. Рабеце больш дасьледаў, скарыстаем калі будзе цікавае.

**Селяніну Грэю В., Асінянцу Язэпу, Пархончыку Уладзімеру** і інш.

Вы няправільна зразумелі „Саху“, пішучы, што яна будзе карысна беларускаму сялянству толькі тады, калі ня будзе займацца палітыканствам і баламуцтвам цёмнага нашага брата. „Саха“ — орган гаспадарчы і з палітыкай ня мае нічога супольнага. Пазнаёмцеся бліжэй з часопісьсю — і тады Вы самі пераканаецеся, што „Саха“ ставіць сваей мэтай — толькі знаёміць наша сялянства з навінамі агранамічнай навукі.

Папулярызуючы гэтыя навіны, „Саха“ стараецца падабраць такія мэтоды вядзеньня сельскае гаспадаркі, якія не вымагалі-б значных грашавых затрат.

**Войнічу М., Пузарэўскаму І., Жуку М.**

Пробныя нумары высылаем. „Саху“ будзем высылаць да канца году толькі па атрыманьні падпіскі.

**Таеўскаму М.:**

Пры прысылцы грошаў трэба паведаміць рэдакцыю, з якога нумару Вам высылаць „Саху“. Адрас пішыце выразна і поўнасьцю.

Выдавец. сэн. УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ.
Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны,—Вільня, Людвісарская 1.

# Прыймаецца падпіска

на першую сельска-гаспадарскую часопісь

# „САХА“

месячнік з абыймом каля 240 старонак у год.

**Часопісь** ставіць мэтай у навукова папулярнай форме знаёміць наша сялянства з навінамі арганамічнай навукі і дасягненьнямі практыкаў-гаспадароў.

**Часопісь** будзе знаёміць с тымі спосабамі вядзеньня сельскай гаспадаркі, калі можна бяз значных грашавых затрат павялічыць свой прыбытак.

**Часопісь** будзе імкнуцца, каб на тэрыторыі Заходняяе Беларусі ўтварыць інстытут сялян-дасьледчыкаў і кіраваць іх працай.

**Часопісь** будзе карысна сялянству, чытальням, гурткам, бібліатэкам і г. д.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА на год 3 зл., на паўгоду 1 зл. 50 гр., адзін нумар каштуе 20 гр., з дастаўкай да хаты 25 гр. **Падпішчыкі будуць адтрымліваць часопісь толькі па перасылцы платы.**

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, вул. Сьв. Анны, д. № 2, кв. 3.